АНАТОЛЬ БРУСЕВІЧ

# КРЫЛЫ

ПАЭМА

ВЕРШЫ

Выданне гэтай кнігі стала магчымым дзякуючы фінансавай падтрымцы
ТАА «Пульс», г. Гродна.
Аўтар таксама выказвае сардэчную падзяку
Марыне Шэпелевіч, Дануце Бічэль, Паўлу Каспяровічу, Аляксандру Рыжаму
за шчырае спрыянне ў рэалізацыі дадзенага праекта.

УДК 821.161.3-1
ББК 64 (4Беи)-5
Б89

*На вокладцы выкарыстана карціна*
*Аляксандра Сільвановіча «Анёл»*

**Брусевіч, А. А.**
Б 89 Крылы: вершы, паэма. / Анатоль Брусевіч. – Гродна : ТАА "ЮрСаПрынт", 2021 – 208 с.

ISBN 978-985-7257-23-2.

Пад адной вокладкай сабраны творы розных гадоў, тэматычна аб'яднаныя ў чатыры раздзелы: «Верныя вершы», «Пад сцягам Мадагаскара», «Сумная вакханалія», «Ты – як зямля». У першым пераважаюць вершы агульнафіласофскага зместу, раскрываючы няпростыя суадносіны мастака і мастацтва. Другі раздзел прысвечаны «малой» і «вялікай» радзіме, «далёкай» і «блізкай» айчыне, «сваёй» і «чужой» бацькаўшчыне. У трэцім змешчаны тэксты, якія носяць яўна дыянісійскі характар. Інтымная лірыка складае чацвёрты раздзел. Разам усе яны быццам чатыры сцяны дома, а ў якасці своеасаблівага даху – паэма «Крылы», якая і дала назву кнізе.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64 (4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7257-23-2**

## Хай шэпчуцца думкі

*(ад Адама Міцкевіча да Анатоля Брусевіча)*

Як гэта ўдалося Адаму Міцкевічу, думаючы па-беларуску, напісаць паэму «Pan Tadeusz» і надрукаваць яе ў Парыжы ў 1834 годзе? Аматары не адразу зразумелі, што з'явіўся сусветны шэдэўр: першае выданне нейкі час ляжала на паліцах у кнігарнях…

*Litwo, Ojczyzno moja! ty jesteś jak zdrowie;*
*Ile cię trzeba cenić, ten tylko się dowie,*
*Kto cię stracił. Dziś piękność twą w całej ozdobie*
*Widzę i opisuję, bo tęsknię po tobie.*
*Panno święta, co Jasnej bronisz Częstochowy*
*I w Ostrej świecisz Bramie! Ty, co gród zamkowy*
*Nowogródzki ochraniasz z jego wiernym ludem!*
*Jak mnie dziecko do zdrowia powróciłaś cudem*
*(Gdy od płaczącej matki, pod Twoją opiekę*
*Ofiarowany martwą podniosłem powiekę;*
*I zaraz mogłem pieszo, do Twych świątyń progu*
*Iść za wrócone życie podziękować Bogu),*
*Tak nas powrócisz cudem na Ojczyzny łono!...*

А мы тут нараджаліся і паміралі. Нехта нават чытаў Адама Міцкевіча. Нехта касіў лугі над Нёманам, абсяваў нівы пшаніцай, жытам, лубінам, грачыхай і канюшынай, а дзяцелінка расла сама па сабе на папары. А на межах пад ціхімі дзічкамі падрасталі паэты.

Максім Багдановіч прачытаў у арыгінале Гейнэ, Шылера, Гарацыя, Авідзія, Пушкіна, Верлена, Верхарна, пераклаў на беларускую мову, каб людзі ведалі, што на мове можна ствараць тэксты розных мастацкіх стыляў, якія прыдумалі паэты свету.

Мне ў жыцці пашанцавала ўладкавацца ў некалькіх пакоях драўлянага доміка ў Гародні на Новым Свеце, на пе-

ракрыжаванні вуліц 1-га мая і М. Багдановіча, збіраць Музей Паэта. Да таго часу я збірала каменьчыкі, жалуды, арэшкі, пасля і кнігі, якія прыносілі ад сяброў тата Яська і сястра Рэня. Міцкевіча ў вёсцы чыталі. Я не хадзіла ў школу, а ведала на памяць паэму «Гражына», бо ў нашай хаце пад абразамі ляжала кніжачка з вершамі, баладамі, паэмамі Адама Міцкевіча. На пісьменніцкіх з'ездах я збірала аўтографы на кнігах паэтаў, якія сядзелі ў зале ці стаялі за трыбунай. А тут Аляксей Карпюк паехаў у Яраслаў, знайшоў сваякоў Максіма Багдановіча і прывёз адтуль шкатулку, якую Адам Багдановіч у Гародні падараваў Марыльцы, каб яна не губляла свае жаночыя пярсцёнкі, напарсткі, іголкі. І прывёз у той шкатулцы сямейныя дакументы: метрыкі, фатаграфіі, папяровую жабку… З гэтай шкатулкі пачаўся Музей Максіма Багдановіча ў Гародні.

Дзеці прыйшлі да Максіма, узяліся за рукі, назвалі свой гурток «Вянок», – так, як называлася адзіная прыжыццёвая кніга Паэта. Сярод гасцей быў чацвёртакласнік Анатоль Брусевіч. Ён таксама прынёс у музей некалькі экспанатаў: вугальны прас і срэбраную лыжку ад бабулі Валерыі, сваячкі Алаізы Пашкевіч, а належала тая лыжка Элізе Ажэшка… Дзеці любілі пісаць вершы, працэс гэты ператваралі ў гульню… Пасля дзеці выраслі і разышліся па сваім жыцці. Акрамя Анатоля Брусевіча, слаўным стаўся Фёдар Жывалеўскі – яго ў музей прыводзіў бацька Валерый, будучы прафесар класічнай гітары, каб сын з равеснікамі размаўляў па-беларуску: Фёдар вучыўся ў школе адзін на роднай мове – з першага па чацвёрты клас.

*Мова мая – музыка.*
*Мова – студня без дна.*
*Родная, беларуская.*
*Мова, як Бог, адна.*

Гэта радкі з верша «Мова мая», з кнігі «Крылы», якую мы цяпер маем... Збіраліся ў музеі і студэнты Гродзенскага ўніверсітэта. Эдзік Мазько ўладкаваўся на паўстаўкі экскурсаводам. Студэнты стварылі верш-гурт «Дыяген» і неяк выбралі сабе літаратурныя стылі, у якіх будуць працаваць, каб новая літаратура была наперадзе суседніх літаратур, маўляў, мы такія смелыя і геніяльныя, усё зможам, а папярэднікі не змаглі... Так яны думалі – эмацыйныя, завадныя. Сябры верш-гурта «Дыяген» спрачаліся і сварыліся: яны ж па-за часам. Калі маладыя заявілі, быццам беларускі мадэрн адстаў ад сусветнага на стагоддзе, яны мелі на ўвазе, што беларусы затрымаліся ва ўспрыманні літаратуры на прымітыве. І стварылі суполку імя Максіма Багдановіча, каб выдаваць газету «Рэанімова», якую ўкладалі дружна: месца хапала і гісторыкам, і палітыкам, і новым паэтам... Крыху пазней мастак Сяргей Грыневіч, з таго ж пакалення, у размове пра мастацтва заўважыць: «Постмадэрнізм безнадзейна ўстарэў». Грыневіч надалей працуе ў гэтым кірунку. Сябры суполкі апекаваліся гуртком «Вянок», дапамагалі ставіць п’есу Алега Мінкіна «Як Лыска ваўком быў», наведвалі садкі і школкі, вандравалі разам у недалёкія падарожжы: ездзілі ў Вільню, у Вострую Браму і да Зоські Верас – сяброўкі паэта Максіма. Якраз дасპелі трускалкі. Гаспадыня дазволіла збіраць ягадкі з градкі, якая палівалася каля яе хаткі-ляпянкі толькі дажджом – студні на той сядзібе і быць не магло. Хатка стаяла паміж зямлёй і небам над Вільняй...

Анатоль прызнаецца, што ён пісаў вершы так, як у яго выходзіла, і цяпер так піша. Паступіў ва ўніверсітэт, дзе лекцыі чыталі добрыя выкладчыкі – Мікалай Янкоўскі, Іван Лепешаў, Ігар Жук, Ала Петрушкевіч. Слухаючы пра філасофскія і літаратурныя плыні, тады і зразумеў, што ён піша ў стылі дэкадансу. Захапіўся Полем Верленам, Эдгарам По, польскімі паэтамі Тадэвушам Міціньскім, Антоніем Лянгэ...

Анатоль вучыўся ў дзявятым класе, калі Аляксей Карпюк звярнуў увагу на яго талент і дапамог выдаць кніжку вершаў «Дуэль». Будучы цяжка хворым, ён вычытаў рукапіс, дамовіўся з «Беларускім фондам культуры» пра выданне. Набіраў вершы на друкарцы паэт Алесь Чобат... Аляксей Карпюк так і не ўбачыў гэтай кніжачкі: памёр 14 ліпеня 1992 года.

«...На старонках кнігі побач з дзіўнымі, часам сюррэалістычнымі вобразамі, аздобленымі яркімі, нечаканымі метафарамі, узнікае, напрыклад, постаць Максіма Багдановіча, неарамантыка і дэкадэнта, альбо Юрыя Гумянюка – аднаго з лепшых беларускіх мадэрністаў...» Гэтак Анатоль піша пра вершы сваёй студэнткі Аліны Паўлоўскай, нібы піша пра сябе самога. А гэта верш Брусевіча з кнігі «Крылы»:

***Памяці Юры Гумянюка***

*Ты хацеў, як заўжды, шыкоўны,*
*Незабыўны стварыць эфект.*
*Атрымалася – ў іншы свет*
*Не пайшоў – адляцеў з балкона.*

*Ды і што тут лавіць было*
*У смуродным і шэрым краі,*
*Дзе ніхто ні аб кім не дбае,*
*Бо навокал адно хамло?!*

*Ты застаўся самім сабой –*
*Неспакойным, вольным паэтам,*
*І таму да апошняй мэты*
*Не схацеў ісці пехатой.*

Калі я вучылася ў педінстытуце, то ў архіве, які размяшчаўся ў кірсе, у турэмных журналах упершыню ўбачыла аўтографы Максіма Танка і Валянціна Таўлая – яны рас-

пісваліся, засяляючыся ў камеры. Так я пачала вывучаць паэтаў Заходняй Беларусі. Танка і Арсенневу заўважыла на фатаграфіі ў часопісе «Калоссе», дзе яны ўсміхаюцца, закаханыя, маладыя і прыгожыя, як іх вершы. Яны з той кагорты, хто блытаў жыццё і паэзію: няма вершаў – няма мяне. Вершы іх пра канкрэтны час і месца, а гучаць так, нібы напісаныя сёння на патрэбу дня. Як «Магутны Божа» Наталлі Арсеневай. Або:

*Паслухайце, вясна ідзе.*
*Звініць ў маіх руках жалеза.*
*З вінтоўкай стражнік ноч і дзень*
*Пільнуе куст пахучы бэзу...*

Максім Танк, 1937 г.

А вось верш Анатоля Брусевіча з кнігі «Крылы»:

*Чырванню перакрэслю*
*Белы колер бяздоння.*
*Весела. Можа, павесіцца?*
*Можа, ўтапіцца ў Нёмане?*

*Ці проста – узяць ды лопнуць*
*Ад недарэчнай мары*
*Тут, у цэнтры Еўропы,*
*Пад сцягам Мадагаскара…*

Такая разбуральная, правакацыйная моц крылаў «пад сцягам Мадагаскара» ў стылі дэкадансу. Усе згаданыя вершы пра тое самае: пра любоў, еднасць, жыццё і смерць за Беларусь. У маладосці былі і ў мяне крылы – Васіль Быкаў і Аляксей Карпюк. У снах узлятаю без крылаў, рукі і ногі не дапамагаюць. Паразмаўляла з сябрамі і зразумела: у снах лётаюць і паэты, і непаэты. З балконаў, з дахаў і з кручаў – таксама лётаюць паэты і непаэты. Але паэтаў, якія лётаюць, спяваюць сумныя песні – іх за вершы любяць або ненаві-

дзяцьˑ Старэйшыя сябры Анатоля хутка паляцелі – Юры Гумянюк з балкона высотнага дома, Эдзік Мазько вяртаўся з гасцей дадому… Юра Гумянюк паспеў укласці і выдаць у Беластоку добрую кнігу вершаў «Вуліца тыгровых архідэяў». Эдзік Мазько толькі ўклаў, але не выдаў сваю першую кнігу «Займеннікі», гэта зрабіла за яго Галіна Мазько.

Анатоль у 2004 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю па творчасці Адама Міцкевіча. У 2007 годзе яму прысвоілі вучонае званне дацэнта. Працуе выкладчыкам роднай мовы і замежнай літаратуры, выхоўвае моладзь і родных дзяцей… Нібы ранні запавет, зварот да сына, верш «Палёт херувімаў»:

*Не чытай гэты верш, мой таемны, няспраўджаны сыне.*
*А калі прачытаеш, не смейся над бацькам сваім,*
*Што сатканы радкі мае з думак пустых і наіўных,*
*Што не пішуць так вершаў... Іх, сыне, не пішуць зусім.*

Паэт Анатоль Брусевіч укладаў свае кніжачкі не спяшаючы. Кніжку «Падаю ў неба» (2006) выдала Таварыства беларускай мовы. Зборнік «Апошні дзень» (2013) выйшаў пры падтрымцы Саюза беларускіх пісьменнікаў, які ўзнагародзіў паэта прэміяй «Залаты апостраф» (2017). Анатоль між літаратараў Гародні вылучаецца шляхетнасцю, не робіць неабдуманых крокаў, не друкуе чарнавікоў. Магчыма, быць спакойным яму дапамагае паэзія – гэты несусветны стан узлёту ва ўсе напрамкі, стан правакацыйнага разбурэння праз адмаўленне і сцвярджэнне ўсяго бессэнсоўнага, палёт у невядомасць.

Мой сын Валера лётае на самаробных самалётах, яны ўзлятаюць і падаюць, разбіваюцца. І трэба канструяваць новыя. І гэта марудны і складаны працэс. Таму ў Валеры ёсць дзіўная мара – пешкі дасягнуць вяршыні К–2 у Гімалаях і

там застацца. Крылы Анатоля Брусевіча сканструяваныя з надзейнага матэрыялу. Са слова можна будаваць сусвет, калі натхненне адчыняе таямніцы космасу душы. Можна ствараць, перастаўляць і разбураць дзівосныя канструкцыі, закопваць у пясок і ў цэмент, запускаць у недасяжным кірунку. Паміж мастацкімі вобразамі нечаканых спалучэнняў і сугуччаў можна ставіць балючыя пытанні пра ўсё, што тварыцца ў свеце:

*Няўжо захлынуцца крывавым маўчаннем*
*Народы, якія так гучна крычалі?*
*Крычалі пра еднасць, свабоду, братэрства,*
*А зараз хаваюцца ў подласці чэрствай.*

*Хаваюцца ў здрадзе і самападмане,*
*Што ноч будзе яснай, што ранак настане.*
*Хавайцеся! Толькі наўрад ці магчыма*
*Схавацца ад позірку ўласнай Айчыны.*

Раздзелы кнігі: «Верныя вершы», «Пад сцягам Мадагаскара»... «Сумная вакханалія»... Калі б мужчына майго пакалення сказаў жанчыне: «Ты – як зямля», нават не ўяўляю, як бы яна ўспрыняла гэты камплімент. У кнізе цэлы раздзел пад такім загалоўкам. Адносіны ўлагоджвае адзін верш:

*Як файна, што недзе чакае*
*Жанчына, якая кахае.*
*Праз межы, дні, кіламетры*
*Яе каханнем сагрэты,*
*Яе чаканнем спавіты,*
*Жыву ад змроку да світу.*

«Вернай жанчыне»

Жыццё бясконцае – паэзія вечная. Каб не была аднастайнай, паэты шукаюць новыя формы адлюстравання жыцця мастацкімі вобразамі. Гэта праца вельмі далікатная, небяспечная, разумовая і эмацыйная. Трэба ўкласці кожную пярлінку ў адпаведную лунку, каб вершы, якія трымаюцца на нечаканых вобразах-думках, не засланялі адзін другога, стваралі прымальны, глыбокі па філасофскай мерцы, рухомы сюжэт. Анатоль уклаў тэматычна багатую кнігу маўклівага суразмоўя з Богам і невідочнымі духамі, стварэннямі і з'явамі сусвету, кнігу пачуццяў любові, кахання, вернасці і здрады. Ёсць і празрыстыя вершы, ды яны крыху не такія, як пісалі беларускія паэты ў мінулым і пішуць цяпер:

*Сон бурштынавага жыта…*
*Спеў сярэбраных нябёс…*
*Край мой родны, ты – малітва –*
*Ойча наш, каторы ёсць…*

«Край. Элегія»

Напісаная ў стылі дэкадансу паэма «Крылы», якая дала назву кнізе, з вельмі крутым для мяне, вескаўні, філасофскім сюжэтам: чорны анёл зваліўся праз дзірку з цёмнага неба… і стаў дырэктарам свету – класна!

Праваслаўны святар Павел Каспяровіч, сябра Анатоля, з якім яны дзеляцца літаратурнымі пошукамі, сказаў: «Я думаю, можна напісаць, што Анатолю Брусевічу, як яскраваму прадстаўніку дэкадансу, уласцівыя змрочныя фарбы ў ранняй паэзіі, песімізм і вальнадумства. Але пошук святла ніколі не пакідаў яго, як і ўспрыняцце рэлігіі праз прызму мастацтва. Мне здаецца, што шчырая вера, не мёртвай літарай закону, заўжды была ў Анатоля». І айцец Павел прадаўжае: «Тут можна прыгадаць прарока Давіда, які звяртаўся да Бога з усім спектрам чалавечых пачуццяў – ад радасці да

болю і адчаю… Так і Анатоль у вершах не баіцца паказваць унутраны сусвет свайго пошуку. Мучанік Іусцін, філасаф з сям'і язычнікаў з Палестыны, калі прыняў хрысціянства, заснаваў адну з першых хрысціянска-філасофскіх школ, а па старой звычцы насіў "філасофскі плашч". Так і Анатоль працягвае насіць "плашч дэкадансу". Бо ў яго ўсё гэта арганічна. Як я не магу развітацца са сваім "рокерскім" мінулым, так і ён…» Мудры святар – пастыр душаў, малітоўных песень, сакральнага мастацтва, бацька і муж, паэт і рокер – імкнецца «разграшыць», паяднаць паэтаў пры Богу, па-за часам і цяпер, калі мы тут. Словы не ведаюць мінулага і смерці, і мы тут заўсёды, пакуль знаходзімся ў веры, надзеі і любові. Таму што «Слова сталася целам і пасялілася паміж намі…» (Ян 1, 1-14). Айцец Павел улагоджвае сітуацыю, сцвярджаючы, што Анатоль перарос юнацкі дэкаданс. Але ў новай кнізе паэт удасканальваецца, дасягае глыбіняў і вышыняў, бо дэкаданс валодае неабмежаванымі магчымасцямі стварэння мастацкіх вобразаў правакацыйнай і разбуральнай сілы. Неяк у Брусевіча гэта атрымалася: у жыцці быць спакойным чалавекам, у паэзіі – дэкадэнтам. Святар заўважае: «Як паэт Анатоль Брусевіч спалучае дэкаданс з традыцыйным, бязгрэшна перадае адчуванне спрадвечнага евангельскага шчасця нараджэння Божага Сына». Я не проста так працытавала геніяльны пачатак «Пана Тадэвуша». Мне хацелася, каб чытачы ўбачылі, што вершы Анатоля Брусевіча з новай кнігі не бляknуць перад паэзіяй генія:

*Каляды. Гэты час, як вадаспад,*
*Які не ў дол спадае, а ў нябёсы,*
*Змываючы халодных зораў россып,*
*І поўні бляск, і шэры далягляд.*
*Віншую Бога. Адплывае страх*
*Перад жыццём самотным і цвярозым.*

*І хочацца ісці не па дарозе,*
*А бегчы напрасткі, па камянях,*
*Праз гэты снег і быць як ён – святым*
*І светлым, нібы першае прычасце,*
*І адчуваць на сэрцы толькі шчасце,*
*І не зважаць на ўласныя сляды.*

«Каляды»

У музеі Максіма Багдановіча дзеці гуртка «Вянок» выдавалі аднайменны рукапісны альманах. Кожны аўтар запісваў вершы на асобнай старонцы альбома. Гэты ўнікальны альбом застаўся ў музеі. Там ёсць аўтографы паэта Анатоля Брусевіча. Наведваў музей Максіма Багдановіча Толікаў тата – Аляксандр. Ды часцей прыходзілі мамы, гулялі ў вершаскладанне разам з дзецьмі. Гэта былі цудоўнейшыя людзі і цудоўнейшы час у нашым жыцці. Дзякуй Табе, Божа, за іх усіх, беражы іх на крылах анёлаў і буслоў. Дай ім добрую долю. Віншую Анатоля Брусевіча, сяброў і аматараў яго паэзіі з добрай кнігай вершаў «Крылы»!

*Данута Бічэль*

Бог стварыў чалавека на сваё падабенства – бяскрылым. Але чалавеку захацелася быць падобным да ніжэйшых істот – анёлаў і птушак, кажаноў і матылёў. І чалавек вынайшаў крылы. А потым і мноства іншых хітрых спосабаў узняцца па-над задумай Усявышняга. Нават мастацтва сталася неўзабаве крылатым – часам лёгкім, як пёркі калібры, і бестурботным, як гойсанне з кветкі на кветку, часам дзікім, як гул рэактыўных турбін, і небяспечным, як піке знішчальніка. Увогуле, КРЫЛЫ дораць не толькі радасць палёту, але і страх падзення. Праўда, многія з нас – і аўтары вершаў, і іх чытачы сёння заклапочаны пераважна здабываннем асалоды і таму абсалютна ўпэўненыя, што ніколі не разаб'юцца. Адно (неа)дэкадэнты помняць пра абедзве магчымасці. Як і пра абсурднасць жадання чалавека быць непадобным да свайго Творцы.

*Аўтар*

# Цішыня

Калі на пыл шляхоў спадзе трывога
І вернецца нарэшце Цішыня,
Суцеш яе: яна шукала Бога,
Але нікога так і не знайшла.

На жаль, не ўсе шляхі вядуць да Пана.
Ёсць шлях, які вядзе да Цішыні.
На ім няма ні горшых, ні абраных,
А толькі вершаў бледныя агні…

# Маё акно

Маё акно без поўні і без зор.
Мароз на ім не піша свой узор.

Маё акно – варожы антысвет,
Маё акно – забыты трыялет.

Маё акно – салодкае віно.
Я п'ю яго, а дна ўсё не відно.

Маё акно – напятая струна.
Не падыходзь так блізка да акна!

# Кожны чацвёрты

Вясна. Халодны ветру звон.
Туман шляхі пустыя ліжа.
Сядзіць сябрына за сталом,
Ды кожны трэці сябар – лішні.

Бо кожны трэці ўжо не той,
Другім і першым з ім нягожа.
Вясна. Згубіўся за смугой
І не прыйшоў чацвёрты кожны…

* * *

Ноч – акіян пануры:
Вокны дамоў – караблі,
Якія з нябеснай буры
Вяртаюцца ў штыль зямлі.

Неба крычыць: «Спакойна!
Бура гартуе ваш дух!»
Вокны стогнуць і тонуць,
П'юць маўчання ваду.

Плача зямля: «Ранак,
Не дай ім пайсці на дно!
Ветразі жоўтых фіранак,
Дзе вы? Мне вас не відно!»

# Вяртанне ў адсутнасць

Назад у адсутнасць – у белую снежную сцюжу,
У мёртвы сусвет адыходжу спакойны, як бог.
Мой розум – мяжа, за якою мінулага ружы
Скідаюць пялёсткі на вострыя руны шыпоў.

Смяецца душа ад бяссілля, ад стомы і здрады.
Мінулага ружы сплятаюцца ў брыдкі вянок.
Вяртаюся ў холад забытага райскага саду,
Да гнёздаў, разбураных некалі мною знарок.

* * *

У дзень зачыненыя дзверы
На два замкі – на ўсход і захад.
Ізноў не спяць жывыя дрэвы,
А кроплі стукаюць па даху.

То дождж, то снег, і трохі сумна,
Што зараз – ноч, а потым – ранак,
Што час – закінутая студня,
І нельга ў ім убачыць твару.

* * *

Адзін. Напалову
Нібыта рассечаны твар
Лязом. На падлогу
Кладзецца разбіты алтар.

Хай шэпчуцца думкі!
Хай рвуцца на волю цвікі!
А я агарнуся
Малітваю жоўтай ракі.

# Радаўніца

Забыўшыся на малітвы,
Пакінуўшы цела труну,
Мой Дух выклікае на бітву
Маралі людской сатану.

Сябе забіваць не цяжка.
Смакуючы свету боль,
Цяжарныя Богам манашкі
Крычаць: «Мы з табой, Анатоль!»

І я паслухмяна крочу
Да іх па сямі грахах,
Па ранах, стыгматах, мошчах
З надзеяй на Божы Страх.

Падэшвамі цяжкіх ботаў
Я трушчу маўчанне дзён,
П’ю слёзы памерлых продкаў,
Вітаю пекла праклён.

# Парушэнне пятага запавету

Паэт забівае Хама,
Што вершы чытаў услых.
Паэту не чутны лямант –
Ён рвецца з грудзей пустых.

Паэт забівае моўчкі,
Шануючы слова бляск.
І нават Паэта вочы
Замоўклі на ноце «ля».

І плавіцца сонца-пляма,
І промнямі б'е пад дых.
Яно забівае Хама,
Што вершы чытаў услых.

# Букет

Смерць нібы кветка вяргіні –
Не належыць ні лету, ні восені.
Толькі нябёсам сінім,
Толькі аблокам бялёсым,
Толькі самотным паэтам
Смерць свае дорыць кветкі –
Жоўты букет вяргіняў
І пацалунак-іней…

# Падаў снег

Падаў снег. Здавалася, неба
Асыпалася, нібы столь.
Падаў снег, як Юдава срэбра,
Замяняючы хлеб у соль,
Замяняючы веру ў роспач
І надзею ў бліскучы пыл.
Падаў снег, як лямант сірочы,
Як маўчанне брацкіх магіл,
Падаў ціха і асцярожна,
Падаў доўга, як страшны сон.
Гэтак бель шпітальнага ложка
Прадчувае хворага скон,
Гэтак жах нямее на скуры,
Прыпыняючы ў жылах кроў.
Падаў снег, бяздумны, пануры
І няўмольны цэнзар слядоў.

* * *

Даруй, мой Бог, што я адчуў нарэшце,
За што Ты ненавідзіш гэты свет.
Нашто любіць, калі жывыя вершы
Не згодныя, што іх стварыў паэт?

Калі радкі, паўсталыя з нябыту,
Адчуўшы моц і подых Твой святы,
Зрабіліся не светлаю малітвай,
А сведкамі бязглуздых парадыгм?

Калі ў чарговай літары і косцы,
Што мусілі засведчыць Твой працяг,
Чытаеш раптам здрадлівае «досыць»,
Бы белы сцяг, узняты на касцях?

Даруй, мой Бог, нянавісці пальчатку,
Якую Ты мне кінуў у спакой,
Я не падняў, бо я – Твая асадка,
Але не верш, закрэслены Табой.

* * *

Іржавымі ключамі навальніцаў
Адчыніць лета браму ў райскі сад.
Адтуль ужо не вернешся назад,
Спазнаўшы ўсю трывогу таямніцы.

Адтуль адна дарога – да вады,
У глыбіні якой жыве маўчанне.
Калі папросіш, срэбнымі ключамі
Яно адчыніць браму ў нікуды…

# Гадзіннік

Гадзіннік заснуў апошнім трывожным сном,
І стрэлкі яго пайшлі ў адваротны бок.
Гадзінніку сніўся свой механічны бог,
Які ўваскрасаў між гукамі «бам» і «бом».

Нарэшце збылося: не ён вымяраў час,
А час вымяраў яго, як мераюць боль,
Як мераюць бель хворыя, гледзячы ў столь,
Хоць марыць вочы заплюшчыць і закрычаць.

Спі, дружа, табе прысвецяць трэнаў радкі
Шкляныя сяброўкі з крохкім, светлым нутром.
Аднойчы і ты між гукамі «бам» і «бом»
Ускрэснеш, як бог, па той бок Кронан-ракі.

* * *

Хто там ведае, што нас чакае?
У пярэстым тумане жыцця
Я не бачу ні пекла, ні раю,
Ні зямлі абяцанай абсяг.

Так і цягнуцца дні-пантамімы.
Следам смерць, асядлаўшы віхор,
Па фарватары сну вершалінаў
Жоўтых дрэў адплыве да зор.

# Паэт

Сустрэўся адзін на адзін
З праклятым сусветам
Паэт, улюбёнец дзяўчын
І спелых кабетаў.

Ён б'ецца адзін на адзін
Са светам і зараз,
Ды толькі сапраўдных мужчын
Чакае параза.

# Стары фотаздымак

Гляджу на сябе дваццацігадовага –
Паўнюткага планаў, натхнення і шчасця.
Зазіраючы ў вочы, бачу там Бога,
Які запрашае сусветы на кастынг.

На вуснах атрутай злыя мелодыі
Часоў, якія ніколі не вернуцца.
Хіба толькі ў лютым днямі халоднымі,
Калі сонца прымае выгляд індзейца.

* * *

Дарога прывяла ў тунэль са шкла
І знікла назаўжды ў адлюстраванні.
І толькі ценю шэрая страла
Згадзілася застацца пад нагамі.
Згадзілася ласкава, але ці
Бяспечна верыць прывідам і ценям?
Таму і страшна крочыць па жыцці,
Бо тут і там вакол шкляныя сцены.

* * *

Пакацілася лета за вежы гатычных касцёлаў,
Зачынілася светлае неба на хмары-замкі,
І не хоча пускаць заблукалых, вандроўных анёлаў,
І яны адлятаюць ізноў на чатыры бакі.

Так і скончыцца свет – ні анёлаў, ні лета не будзе,
Толькі неба, і хмары, і вежы, нібыта цвікі,
І малітвы, якія прыдумалі некалі людзі,
Каб спакойна блукаць, вандраваць у чатыры бакі.

# Карыда

Восень, якая жыла яшчэ ўчора,
Падала лісцем на твар тратуараў,
Енчыла крыкам варон каля сметніц,
Дыхала поўна грудзьмі цеплатрасаў,
Сёння памерла. Плашчом матадора
Ранак зімовы мільгнуў перад тварам.
Бітва прайграная. Стомлены вецер
Шле пацалункі. Бура авацый.

* * *

З вуснаў Пана зляцела вясна
У халоднае сэрца паэта,
І спачатку пытальніка знак
Нарадзіўся, а потым і лета.

Дзякуй, дружа ахоўнік-анёл,
Што ты дорыш мне думкі аб леце,
Але ў гэтым вялікім сусвеце
Ёсць і восень, і роспач, і боль.

# Восень

За акном часовага прытулку
Я не бачу восеньскай тугі.
Бачу дождж, які сярод завулкаў
Уздымае воблакі-сцягі.

Бачу ў небе птушак феерверкі,
Жоўтых дрэваў радасны пажар.
З вышыні апошняга паверха
Бачу Пана светлы, ветлы твар.

# Кратары поўні

Кратары поўні – вольнасці краты,
Здрада і радасць марных ілюзій.
Кратары поўні – вочы Пілата,
Мост, дзе сустрэнуцца мары і людзі.

Кратары поўні могуць заплакаць
Светлай, салодкай слязой Магдаліны.
Поўня – чароўная, дзіўная плаха,
Дзе паміраюць пад спеў мандаліны.

* * *

Запытай у мяне, ці хачу я
Жыць не так, як жыву цяпер?
Запытай. Толькі я не пачую,
Бо глухі, нібы псіхдыспансер.
Маё цела – каменныя сцены.
Маё сэрца не адгукнецца.
Я – выгнаннік з уласнай душы.
Я – ахвяра маўклівай ілжы.
Я наскрозь недаверам прарос,
І жыццё не ўспрымаю ўсур'ёз.
Ні пра што не пытайся ў паэта –
Хай жыве так, як жыў ён дагэтуль.

# Трыялет

Не трэба саромецца слёз.
Яны нібы дождж у спякоту,
Адмыюць ад пылу самоту.
Не трэба саромецца слёз.
Гаворыць мне здзекліва лёс,
Душой выціраючы боты:
«Не трэба саромецца слёз.
Яны нібы дождж у спякоту».

# Ранішняя імша

Зіма.
Па белай рачулцы ранка
Плывуць самаходы.
Падае снег.
А я
Ныраю ў аблокі,
Абліты срэбрам аргана,
Падаю ўверх.

# Каляды

Каляды. Гэты час, як вадаспад,
Які не ў дол спадае, а ў нябёсы,
Змываючы халодных зораў россып,
І поўні бляск, і шэры далягляд.
Віншую Бога. Адплывае страх
Перад жыццём самотным і цвярозым.
І хочацца ісці не па дарозе,
А бегчы напрасткі, па камянях,
Праз гэты снег і быць, як ён, святым
І светлым, нібы першае прычасце,
І адчуваць на сэрцы толькі шчасце,
І не зважаць на ўласныя сляды.

* * *

Заўтра Вясна-Хрыстос
Восень мёртвую ўскрэсіць,
Хмары жалобным шэсцем
Спаляць нутро нябёс.

Заўтра знікне туман
Смутных, мутных малітваў,
Знікнуць светлыя міты –
Чорнай Зімы падман.

Заўтра снегу сурма
Сонны затопіць горад.
Восень памерла ўчора.
Сёння памрэ Зіма.

# Снежны Вялікдзень у Гародні

Снег. Над Гародняй кружыць зіма –
Разам з Хрыстом ускрэсла.
Белыя ходнікі. Бель на дамах.
Даль – бялёсая бездань.
Снег нібы смех, што стаіўся ў душы
Даўніх, як рэха, содняў.
Звон Велікодны кліча дажджы –
Гоніць зіму з Гародні…

# Царствы

Сонца соннае царства:
Вёснаў бясконцых воск
свеціцца сумным бляскам
На алтары нябёс.

Поўніцца стомай спеўнай
Цэлы сусвет, а я
Поўнюся мовай дрэваў.
Царства маё – зямля.

# Час

Час бясконцы, як кропля дажджу,
Што сплывае з нябёсаў у вершы,
Што люструе бялёсую веру
Разам з цемрай таго, што кажу.

Час бяскрайні, як мёртвы пейзаж
На цнатлівых малюнках прыроды,
Як мальберта зняможаны подых
І вясёлай прыгоды гуаш.

# Травень

За квадратам акна
Праплывае вясна,
Плаўнікамі-аблокамі рухае.
За квадратам шкляным
Ля нябеснай вады
Яе чэрвень чакае з вудаю.

# Ліпень

Іду праз гэты ліпень дзіўны,
Як праз масток.
Ад светлай песні лебядзінай
У сон і змрок –

Туды, дзе хіліцца калоссе
Ажно да ног.
Мяне чакае пані Восень
Ужо даўно.

# Лістапад

Па нотах апалай, счарнелай лістоты
Жалобныя песні спявае рака.
У жоўтых радках каламутнага броду
Задумлівай поўні адбіўся дукат.

Маўчыць наваколле. Пад брудам і слотай
Застылі кусты, як вянкі на кладах.
Спявае рака. Берагоў пазалота
Бяззубай усмешкай калышацца ў такт.

# Эдзіку Мазько

I.
(прывітальны акратэлеверш)

**Э**дэм засох. За брамай райскай хра**М**
**Д**аўно стаіць пусты – без алтар**а**.
**У**богі люд глядзіць на ўсё без слё**з**,
**А** побач ты, пранізаны наскро**зь**
**Р**уцінай тых, што рвуць з цябе вяно**к**,
**Д**образычліва ім ліеш він**о**.

II.
(развітальны верш)

Так шмат дарог вядзе да Пана Бога,
А ты абраў кароткі самы шлях –
Пайшоў наўпрост – па вострых камянях,
Не баючыся да крыві параніць ногі.

Ну што ж, бывай, цяпер ты не адзін.
Ты нас пакінуў цешыцца самотай,
Лічыць гады ад слоты да спякоты,
Сачыць, як з дрэваў сыплецца бурштын,

Глядзець, як падрастаюць нашы дзеткі,
Як вершы спяць у пераплётах кніг,
Як адыходзіць з марамі цягнік
У светлы край жывых і штучных кветак.

* * *

У чаканні зімы на раскіданым вогнішчы лета,
На счарнелым вуголлі пустых, нібы рэха, уцех
Дождж халодны малюе абрысы сляпога паэта,
Рыфмара, што застаўся сам на сам са смехам людзей.

Так, паэт быў сляпы, бо не бачыў высокага неба.
Ён сачыў глыбіню, глыбіня яго выпіла зрок.
У чаканні зімы агаліліся райскія дрэвы,
І лістоту пад імі зграбае купальскі дзядок.

* * *

Ноччу на мёртвым голлі
Гронкі птушак галодных
Спеюць і падаюць лёгка
У неба рукі-аблокі.

Што іх чакае потым?
Неба ад Бога ўпотай
З'ядае тое падзенне
І здрадай рання ірдзее.

* * *

Мяне ратавала вера.
Павернуты да сцяны
Халодных, як золак, вершаў,
Я сэрцам прагнуў вайны.

Я марыў чытаць па рунах
Дажджу малітвы зімы,
Пусты сумлення рахунак
Напоўніць пахам сурмы.

Але не сурмой напоўніў
Сябе, а чорнай турмой,
Якая зацьменнем поўным
Лягла на мой неспакой.

Я думаў: скончацца слёзы
І лёс саскочыць з ляза
Ілжывых, подлых даносаў.
Ды не. Іскрыцца сляза

Як сімвал страчанай меры,
Як першы, нясмелы крок…
Мяне ўратавала вера.
І я не пайшоў у змрок.

# Малітва

Божа,
Зрабі мяне дрэвам!
Ці можа
адразу дровамі.
Я буду гарэць
прыгожа,
І нехта, узіраючыся на агонь,
Прыдумае верш, лёгкі, як сон,
Пра вечны і неўміручы боль
Кахання ў любові,
Якога яшчэ не было і не будзе ніколі…
Божа, зрабі мяне болем
Дрэва, агню, слова…

* * *

Белым птахам лунае смерць
Над змялелым бродам малітвы,
Па якім пераходзяць міты
Ад жыцця да танчэйшых сфер,
Па якім пераходзіць час
На туманны бераг знямогі,
Пераносячы веру ў Бога
На сваіх шырокіх плячах.

* * *

Палова жыцця – пражытак.
Другая палова – міт.
– Чаму ты з вершамі сшытак
Гартаеш і плачаш наўзрыд?
– Мой плач – хвілёвая слабасць
З нагоды дзіўнага сну:
Прысніўся нямоглы старац,
Шукаў ён нешта ў пяску,
Худымі грэбаў рукамі
Ва ўсе чатыры бакі.
Пытаюся – Што шукаеш?
– Шукаю вершаў радкі.
Я выкінуў іх у хвалі
Юнацтва бурнай ракі,
І хвалі іх пахавалі,
І сталі пяском радкі.
А я з таго самага часу
Згубіў шчаслівы спакой…
Я ў твар прыгледзеўся старцу:
О, Божа! Ён твар меў мой.

# Паэту

Калі аслабее вера,
У шэрых яе вачах
Ты раптам убачыш звера
Халодны, спрадвечны жах.

Тады не марудзь ні хвілі –
Убі ёй у сэрца сталь
Сваіх і чужых ідылій
І кліч натхненне на баль.

На крык параненай веры,
На водар яе крыві
Злятуцца чорныя вершы.
Спрабуй іх, паэт, злаві!

# Вершы

Вершы прыходзяць да паэтаў,
Як дзеці да састарэлых бацькоў –
Рэдка, калі проста так,
Звычайна на святы,
Каб споўніць свой
Быццам бы абавязак,
Вяртаюць яны нібы тое,
Што некалі пазычалі,
Хоць на самой справе
Ніхто нікому нічога
Ніколі не быў вінны.
А калі адыходзяць вершы,
Паэты доўга не могуць
Заснуць, узіраюцца моўчкі
У змрок лістапада і снежня
Ці проста ва ўласныя думкі
І свята чакаюць, чакаюць
Вяртання дахаты
Блудных, любімых дзяцей.

* * *

Сухой паэзіі асушаны бакалы,
Салодкіх рытмаў выпіта віно.
Паснулі музы проста сярод залы,
Стаміўшыся адна перад адной
Пазіраваць, іграць чужыя ролі,
Імітаваць то радасць, то экстаз.
Раскрыты ўсе сакрэтныя паролі,
І шлях адзін – у Вечны Дэкаданс.

# Не люблю

Мае вершы нібыта птушкі,
Што вяртаюцца час ад часу
Да сваіх разбураных гнёздаў
У шчарнелы, засохлы сад.
Закрываю вочы і вушы,
Не хачу іх ні чуць, ні бачыць,
Не хачу сачыць за іх лётам –
Не люблю вяртання назад.

* * *

Маўчання пацалунак змрочны
Вяртае ў сон халодных зор.
Душу шляхамі слёз сірочых
Вяду, хоць кожны крок – лязо.

Трывогай поўніцца свабода.
Свабодай пеняцца гады.
Гарацьад захаду да ўсходу
Душы крывавыя сляды.

* * *

Вяртаюся з лістападу
Слядамі мёртвай вясны
У горад, сонцам пракляты,
Што спіць на лязе слязы.

Вяртаюся, каб пастукаць
У шыбы праведных слоў,
Якімі спавіты вусны
І вочы блудных сяброў.

Вяртаюся, каб убачыць,
Як здзейсніцца неба суд
Над рэхам ціхага плачу
Дажджу і смехам пяску.

Адно баюся, што здрадай
Сады забеляць сляды
Вясны, каб я з лістападу
Не змог вярнуцца сюды…

# Прароку

Крочыш моўчкі слядамі святых
Па дарозе, стагоддзі нязходжанай, –
Боль шукаеш і роспачы дым,
Абмінаеш пагляды варожыя.
Позірк твой зачапіўся за дол,
Пагарджаючы фарбамі лішнімі.
Глянь на неба – там роспач і боль
У блакітных вачах Усявышняга.

* * *

Сыходзяць сябры –
Хто ў быт, хто ў нябыт.
Адзін толькі я
Не крочу туды,
Бо пуста ўнутры
Ад шчасця і крыўд.
А ночы змяя
Паўзе да вады –
Нап'ецца і світ
Абвесцяць званы.
Прачнуцца сябры,
Каб кінуць мяне
У быт і нябыт,
У яву і сны,
У моўкнасць і крык,
Што камнем на дне…

* * *

Дзе ты, светлы, наіўны хлопчык,
Той, што верыў: зменіцца свет?!
У люстэрку іншыя вочы,
А ад веры прастыў і след.

Бедны хлопчык, ты спіш, спавіты
Сном атрутным, часу смугой.
Пасля вашай са светам бітвы
Свет застаўся самім сабой.

Толькі часам бывае ноччу,
Калі свету прыціхне звон,
У душы зварухнецца хлопчык
І гаворыць вершы праз сон.

# Размова

– Ойча, за што мне гэта –
Плыць насустрач сумленню
Хвалямі чорных кветак,
Плёсам бялёсых ценяў?

Ойча, за што мне гэта –
Плыць на скалы і рыфы,
Свет замыкаць у гета
Светлых словаў і рыфмаў?

Ойча, за што мне гэта –
Піць цыкуту маўчання?
– Сыне, дай цыгарэту,
Кінь дурныя пытанні.

* * *

Мае верныя вершы,
Як анёлы-ахоўнікі,
Паміж злом і дабром
Сцерагуць мой сусвет
Ад халодных усмешак
Срэбралюбных іконнікаў,
Ад цукровых сяброў
І слязлівых кабет.

Знаю, час праглыне
І апошніх, і першых,
І самоту, і смех,
І сяброў, і кабет.
Не пакіньце ж мяне,
Мае верныя вершы,
Калі сонца ў расе
Не пакіне свой след!

* * *

Восень – туга даматканая,
Бераг нязбытных трывог.
Разам з лістотаю п’янаю
Гніць мне на ўскрайку дарог.

Бо ні самоты, ні памяці
Не засталося ў ва мне.
Добра, паспеў хоць пакаяцца,
Перш чым спачыць на дне.

Восень, туга мая шэрая,
Вырай для зграі варон.
Золата цэрквы ашчэрылі
Зрэбным Дзядам наўздагон…

* * *

Не хацелася быць адзінокім,
Але толькі былыя грахі
Не стамляюцца – слухаюць крокі
Адзіноты і нішчаць шляхі,

Што вядуць ад хвілёвага шчасця
У пустэльню нямога кіно.
І няма больш Святога Прычасця –
Толькі звыклыя хлеб і віно.

І няма ні святла, ані свету.
Усміхаецца змрочны Хаос
Адзіноце, наіўным паэтам
І грахам, набрынялым ад слёз.

* * *

Камяністай пустэльняй трывогі
Адыходзяць апошнія дні.
Што ж, бывайце, шчаслівай дарогі!
Не параньцеся аб камяні.

А калі і параніць хто ногі,
Не вяртайцеся – не прыму.
З камяністай пустэльні трывогі
Я чакаю ночы сурму.

# Без цябе

Без цябе гэты горад пусты,
Нібы крык цягнікоў,
Што вяртаюцца з восеньскіх сноў,
І ніхто не прыйшоў іх сустрэць,
Толькі смерць…
Проста ў твар мне смяецца Харон.
Смех яго, быццам снег ці пясок,
Праглыне адзіноты сляды…

# Сон пра Анатоля Сыса

Сніўся Паэт – у вачах адчай,
Але са смакам корсткім спакою
Мне кажа: «Толічак, выбачай
За вершы, якія цяпер з табою.

Не праганяй іх, а прытулі,
Так, як цябе туліла матуля,
Бо без любові мы ўсе – нулі,
І верш памрэ, калі беспрытульны.

Бо не бывае вершаў чужых,
Як і дзяцей чужых не бывае.
Не пакідай жа, Толічак, іх –
Без вершаў няма ні краю, ні раю…»

* * *

Я – апошні паэт, спадкаемца маўклівых прарокаў,
Чые словы-шляхі зараслі пустазвоннай травой,
А сляды патанулі ў глыбокіх, як гурбы, аблоках,
Сярод матчыных песняў, спяваных на мове чужой.

Я не бачу слядоў, але чую іх пульс пад нагамі.
Я іду ў цішыню, дзе Радзіма пакуль што жыве,
Я адзін, бо астатнім хацелася стацца багамі,
І будуюць бажніцы яны ў пустазвоннай траве.

Хай будуюць, блішчаць і крычаць пра надзею і веру,
Пра каханне, свабоду, самоту, аблом і надлом.
Я адзін адыходжу – за мной зачыняюцца дзверы.
Больш паэтаў не будзе і я выключаю святло.

* * *

Страшны свет. І не зменіш ні трасцы.
Застаецца адно – зачыніцца
Ад калгаснага змроку сталіцы,
Ад сталічнага бляску калгасаў,

Ад званоў златаглавай хімеры,
Ад хіджабаў свабоднай Еўропы,
Ад утопій і антыутопій
І ад іншай усякай халеры.

Страшны свет. Зачынюся ў Гародні
На замкі ўсіх касцёлаў і замкаў,
А на вокны павешу фіранкі,
Вышываныя позіркам поўні.

І не буду глядзець ні на захад,
Ні на ўсход, толькі ў неба начное,
Дзе душы маёй стомлены човен
Праплывае над плахамі дахаў.

Праплывае, каб знікнуць нарэшце
У вірах непрыдуманых фобій,
Каб на дне непрытомнай жалобы
Край прысніць па-за кратамі вершаў.

# Край. Элегія

Я люблю цябе, Радзіма.
Нібы маці, ты адна
Дорыш крылы за плячыма
І самоту п'еш да дна.

Самы мілы, самы шчыры,
Самы лепшы ў свеце край –
Белы рай, зялёны вырай
І чырвоны небакрай.

Ты даеш слабому сілы,
Ты сляпым вяртаеш зрок.
Ты калыска і магіла,
Першы і апошні крок.

Сон бурштынавага жыта…
Спеў сярэбраных нябёс…
Край мой родны, ты – малітва –
Ойча наш, каторы ёсць…

* * *

Хочацца ціхай смерці –
Сну, што не мае межаў.
Хочацца жыць і верыць,
Верыць у прабуджэнне.

Хочацца быць нябачным,
Ветрам блукаць над краем.
Хочацца ўсіх прабачыць,
Але ці маю права?

* * *

На шэрым павуцінні раздарожжа
Зіхціць раса маіх шчаслівых дзён.
У кожным дні люструецца праклён
І летні сон на дне шпітальных ложкаў,
Дзе нечы позірк ціха, асцярожна
Нітуе і свабоду, і палон,
І подласці расхрыстаны хітон,
І слабасці падраныя калошы.
І гэта ўсё нібы жалобны звон,
Нібы акорд апошняе малітвы
За родны край, паклiканы на бітву,
Але забіты здрадніцкім лязом.

* * *

На белым аркушы зімы
Памерлы вершы нашай веры,
І нас не будзяць больш званы
Крыштальным звонам з вежаў срэбных,

Бо нас няма ні там, ні тут.
Мы вецер, цені ўласных думак.
Як ты мне мілы, родны кут,
Дзе добра хіба толькі дурням!

Я п’ю віно сваёй турмы
На брударшафт з варожай хеўрай
І стосы аркушаў зімы
Палю на алтары Мінервы.

# Радзіма

Мужчыны, жанчыны і іхнія дзеці,
Бы лакам, пакрытыя водбліскам смерці:

Зялёныя твары, чырвоныя вочы,
А лёс, калі не жабрачы – сірочы.

Усё рассычаецца ў багне ілюзій –
Сваё і чужое, пачвары і людзі.

І толькі Радзіма, забытая дзесьці,
Адна не пакрылася водбліскам смерці.

# Студзень

Зноў за вокнамі студзень пануры.
Ашчацінілі каркі дажджы,
І дарожак асфальтных вужы
Ледзяныя паскідвалі скуры.

Што за край?! – ні зімы, ні вясны,
Толькі вечная, шэрая слота.
Нават птушкі лянуюцца лётаць –
Пахаваліся недзе ў кусты.

У чаканні хрышчэнскай віхуры
Спіць Гародня. Сляпыя дажджы
Сярод студзеня точаць нажы
Аб шчарнелыя, рэдкія гурбы.

# Сакавік

Соты мінуў сакавік.
Белы за вокнамі снег
Альбо патоне ў крыві,
Альбо застыне навек,

Як застывае фантом –
Айсберг пажадлівых сноў.
– Хто вы, спадарства?
– Ніхто!
– Дрэвы мы! Кроў наша – сок!

# Хлеб свабоды

Хлеб свабоды маўклівы і чорны,
Ды ў часіну галоднай вясны
Ён задзівіць і смакам чароўным,
І гамонкай на ўсе галасы.

Хлеб свабоды накорміць сумленне,
Прычасціць і святых, і пустых.
Але толькі яго на каленях
Не з'ясі, так што ўстаньце, браты!

# У чаканні світу

Іду праз ноч, на пах праклятай ночы,
Іду на крык, задушаны знарок,
Туды, дзе цемра засцілае вочы,
А душы заплятаюцца ў клубок.

Іду туды, дзе людзі могуць лёгка
Закрыць маўчанне на замок ілжы
І падзяліць нябёсы на аблокі,
На Бога і на шэрыя дажджы,

А потым святкаваць сваю паразу,
Бы Новы год, за шклянкаю віна.
Іду да вас, нашчадкі подлых блазнаў,
Каб вашу ноч усю дапіць да дна!

* * *

Мая адзінота не мае межаў.
Канец і пачатак зышліся разам.
У кропцы космасу плача снежань,
Зрываючы з твару летнюю маску.

Мая адзінота нібыта вежа,
Якая з неба падае ў пекла,
Братэрства, вольнасць і незалежнасць
Мяшаючы з пылам цёплым і светлым.

* * *

Калі б я ведаў пэўна, што паўстане
Праз смерць маю гаротны край з руінаў,
То пагадзіўся б на раскрыжаванне,
Бы на спатканне з пекнаю жанчынай.

Але над краем чорныя аблокі,
Бо тут ніхто не марыць аб збаўленні.
Таму ці варта крочыць на Галгофу,
На дробныя манеты смерць разменьваць?

# Братам

*Паэт не мае права быць паэтам*
*Цнатлівае і чыстае красы,*
*Калі ў Айчыне загніваюць рэкі*
*І засыхаюць на вачох лясы.*
*Анатоль Сыс*

Няўжо захлынуцца крывавым маўчаннем
Народы, якія так гучна крычалі?

Крычалі пра еднасць, свабоду, братэрства,
А зараз хаваюцца ў подласці чэрствай.

Хаваюцца ў здрадзе і самападмане,
Што ноч будзе яснай, што ранак настане.

Хавайцеся! Толькі наўрад ці магчыма
Схавацца ад позірку ўласнай Айчыны

Ці вочы заплюшчыць на плач немаўлятаў.
Хто вочы заплюшчыць, той будзе пракляты.

Такіх праклянуць і нашчадкі, і продкі,
А шлях іхні будзе пусты і салодкі,

Нібы пацалунак Юдзіф. Калі ж вочы
Расплюшчаць, то ўбачаць, што сонца – нябожчык.

Ганіце ж, пакуль яшчэ сонца не згасла,
У цьмутаракань і любоў, і каварства!

* * *

Закацілася восень за хмары
І спадае халодным дажджом
На крывыя радкі тратуараў,
Рэдагуючы горада том.

Недалёкіх, пустых персанажаў,
Што змянілі душу на спакой,
Смела крэсліць, бо толькі адважны
Мае права застацца герой.

* * *

Беларусь – самоты эталон.
Тут няма ні лета, ні вясны.
Восені халодны парасон
Ахінае сонечныя сны.

Горад мой букетам веаргінь
На магіле страчаных надзей
Робіцца калючым і сухім,
Нібы жарт, нацэлены на здзек.

* * *

Дарма спадзяюся, што ў край гэты прыйдзе вясна.
Нашто ёй вяртацца туды, дзе нікога няма?

Вясны не чакаюць магілы, што спяць на кладах.
Ім цёпла і так у чырвона-зялёных імхах.

Наўрад ці патрэбна ім сонца і спеў жаўрука.
Іх думкі вартуе іржавае вока замка.

Што ў край гэты прыйдзе вясна, спадзяюся дарма.
Пра край гэты мёртвы забылася нават зіма.

# Курапаты
(акратэлеверш)

**В**ясны крывавы зал**п**,
**е**нк ветру, боль, сляз**а**,
**ч**ас знік – яму няўця**м**,
**н**авошта плач. Жыцц**я**
**а**бсяг спыніў свіне**ц**,
**я**кому век звінец**ь**.

# Апладысменты

Аднойчы цені несвабоды
Ступілі ў нетры целаў потных.
І зніклі райскія вароты
У зеўры змрочнага балота.
Анёлы выкінулі крылы,
Імхом пакрыліся магілы.
І толькі блазны і дэбілы
Ў далоні пляскалі штосілы.

# Памяці Юры Гумянюка

Ты хацеў, як заўжды, шыкоўны,
Незабыўны стварыць эфект.
Атрымалася – ў іншы свет
Не пайшоў – адляцеў з балкона.

Ды і што тут лавіць было
У смуродным і шэрым краі,
Дзе ніхто ні аб кім не дбае,
Бо навокал адно хамло?!

Ты застаўся самім сабой –
Неспакойным, вольным паэтам,
І таму да апошняй мэты
Не схацеў ісці пехатой…

* * *

Чырванню перакрэслю
Белы колер бяздоння.
Весела. Можа, павесіцца?
Можа, ўтапіцца ў Нёмане?

Ці проста ўзяць ды лопнуць
Ад недарэчнай мары
Тут, у цэнтры Еўропы,
Пад сцягам Мадагаскара?

# Канапныя думкі

Ляжу, качаюся на канапцы,
Уключыў мясцовую тэлевізію
Ды сачу, як замучаны папарацы
Вядзе рэпартаж з Гародні бязвізавай.

Вясна прыйшла зусім нечакана –
Так павестка прыходзіць з ваенкамата.
Зімовыя мроі ў нязбытнасць канулі,
Нібы ў Нёман бутэлькі з-пад ліманаду.

Не варта, зрэшты, тарай шпурляцца –
Для здачы бутэлек прыдумалі пункты.
Здае што можа галодная нацыя:
І мову, і шкло, і сяброў, і валюту.

Ляжу, качаюся на канапцы,
Малюю сонца асадкаю сіняю.
«Гарызонт» выключыў. Слухаю «Рацыю».
Жыццё ідзе, хоць здурнелі гадзіннікі.

* * *

Мастацтва дзеля мастацтва,
Паскудства дзеля паскудства,
Вар'яцтва дзеля вар'яцтва,
І глупства – так, дзеля глупства.
Малітва дзеля малітвы,
Вяртанне дзеля вяртання.
У бой ідзём дзеля бітвы,
Кахаем дзеля кахання.
І ў гэтым ёсць сэнс адметны,
Глыбокі, нават прыгожы!
Жывём, праўда, без мэты.
Яшчэ працуем для грошай.

* * *

Мне сумна між твараў шчаслівых,
Усмешак, што студзяць душу.
Мне шэрая сніцца радзіма
За дротам калючым дажджу.

Мне сняцца свінцовыя хмары
І дрэвы ў халоднай імгле.
Гляджу на вясёлыя твары,
А бачу самотны буклет.

# Айчыне

Штоноч за тваім акном
На вербах растуць плады –
Пухнатыя грушы варон.
Іх раніцай лічыш ты.

На жаль, няма сярод іх
Вароны белай, як снег,
І з вуснаў тваіх то крык
Злятае, то дзікі смех.

Ты чуеш – гэта табе
Накарkваюць сумны лёс
Вароны, што на вярбе
Бы чорныя пацеркі слёз.

# Аульс*

Аульс, ты мёртвы аул,
Баул, паўнюткі рыззя.
З цябе ні ўцяць, ані ўзяць,
Як ерэтыкам з тых бул.

Аульс, дзе сіла твая?
Маячыш смерцю ў жыцці.
Ты – вецер, той, што прыціх,
Каб разгуляцца ўдвая.

Аульс, ты мінус і плюс.
Бы флюс твой дзікі пейзаж.
Ты возьмеш заўжды рэванш,
Таму я цябе люблю.



* Аульс – былая вёска ў прыгарадзе Гародні (знікла ў 2008 г., уключаная ў межы горада), побач з якой неўзабаве выраслі гарадскія могілкі з аднайменнай назвай.

* * *

А мяне больш ніхто не чакае.
Я спазніўся на ўсе цягнікі
І бадзяюся. Зграя ж людская
Не прымае бадзягаў такіх.

І напэўна, не прыме ніколі,
Бо па іншых законах жыву:
Не шаную адведзеных роляў
І схіляць не хачу галаву.

Так і буду бясконца бадзяцца
Паміж небам і пеклам людзей,
Не прыняўшы аблічча паяца,
А таму не патрэбны нідзе.

# Радзіме

Плач, хай спадуць з душы
Горкія гронкі вершаў.
Плач, абудзі на крыжы
Хатніх надзей бязмежжа.

Плач, а следам дажджы
Сэрца напоўняць песняй.
Веру, ты будзеш жыць.
Веру, як Бог ускрэснеш.

* * *

У промнях захаду зіхцяць
На ўсход пракладзеныя сцежкі.
Па іх бягуць сляпыя пешкі
Вітаць глухога караля.

І водар вольнай цішыні,
І сум аб страчанай свабодзе
Згараць пад смех чужых мелодый
У вечным, д’ябальскім агні.

* * *

Паскардзіцца можна адным камяням
У свеце халодным і шэрым,
Бо людзі, гатовыя бачыць падман,
Зачыняць і вокны, і дзверы.

Ніхто не захоча зрабіцца сляпым,
Убачыць і ноч, і свабоду,
Бо душы знутры пахаваныя ў пыл,
А звонку – пакрытыя лёдам.

# Дзіўнае падарожжа

Дарога падавалася бясконцай,
Аж покуль на яе не выпаў снег.
«Прыехалі!» – сказаў усім кіроўца.
«О, не! – ў адказ яму сказалі ўсе. –
Не любім мы занадта асцярожных.
Шукай ты спадарожнікаў другіх!»
І пехатой пайшлі па бездарожжы
На голас ветру, рэха і тугі.

# Польскае лета

Душнае польскае лета.
Бела-чырвоныя ночы.
Кнайпа. Дым цыгарэтны
Аж раз’ядае вочы.
Хоць не хачу, ды мушу
Выкінуць пару злотых –
Выпіць моцную «пушку»:
Сумна аж да дурноты.

# Над Віслай

Над Віслай
Хмары нізка навіслі
Як вершаў нізка
Дрэвы абапал
Віслы
Іх лісце
Колеру хваляў
Ракі і ветра
Над Віслай
Мне не хапае
Паветра

# Да Нёмна

Каўнас дажджом спаткаў нас.
Коўна – шыкоўным сном,
Мрояй пра старадаўнасць
За іржавым замком.

Мілы мой, добры Нёман,
Ты адзін тут жывы,
Абараняеш Коўна –
Чысціш сны ад іржы.

# Мова мая

Мова мая светлая,
Нібы вясновы дзень.
Мова мая летняя –
Ззянне сонца ў вадзе.
Мова мая шчодрая,
Нібы асенні сад,
Лёгкая і бадзёрая,
Як зімой снегапад.
Мова мая – музыка.
Мова – студня без дна.
Родная, беларуская.
Мова, як Бог, адна.

# Гарадзенскі нацюрморт

Раніца. Кетчуп зарніцы
Разліты па-над сусветам.
Сонца засохлым грэйпфрутам
Спіць на сурвэтцы Нёмна.
І толькі небу не спіцца.
Нябёсы мараць пра лета,
Якое яшчэ не хутка
Пакліча іх голасам сонным.

# Горад

За мной зарастаюць сляды,
Бо там, куды крочу я – цемра.
Зляцелі з галінак плады –
Сады зацвіталі дарэмна.

З душой размаўляе на «ты»
З вады дэмакратыі чэрап.
У чэраве жоўтых вітрын
Цытрынаў бурштынавы шэраг.

# Горад, ноч

Ты ніколі не спіш. Як і іншыя ўсе гарады,
Сузіраеш прастор з-пад жалезабетонных павек.
Ты баішся заснуць, як баіцца стары чалавек
Не дажыць да світання, заснуўшы – заснуць назаўжды.

Неспакой гэты вечны вартуюць твае ваяры –
Камяніцы, касцёлы, гатовыя кінуцца ў бой.
Хоць і бітвы не будзе, бо коміны трубяць «адбой»,
Наліваюцца кроўю ад злосці старыя муры.

Ды і як тут заснеш – у цагляныя жылы кляшчом
Паўпіваліся сотні галодных і дзікіх машын.
І свярбяць светлафоры, і мёртвыя верты вітрын,
І гатэлі, і п'яныя кнайпы за кожным вуглом.

Я таксама не сплю – углядаюся ў роспач і жах,
У самоту стагоддзяў, у горыч наступнага дня,
У халодныя вочы, якія нічога не сняць,
У каменныя вершы, якія слязяцца ў вачах…

* * *

Гародня горкім яблыкам
Упала на зямлю.
Упала і разбілася
Аб словы «я люблю».

Упала і згубілася
Навек у снах травы.
У вырай дні магільныя
Панеслі журавы.

* * *

Крычаць вароны крыкам чорным –
Заблыталіся ў нечых снах.
Іх крык над мёртваю Гародняй
Плыве, як пахавальны сцяг.

Ну што ж, бывай, мой любы горад,
Мая свабода, мой палон.
Да дна я выпіў мёд твой горкі
Пад песню чорную варон.

# У гэтай краіне

У гэтай краіне ніхто не жыве,
І толькі пустыя адбіткі паэтаў
Часамі з'яўляюцца тут, нібы ў сне,
І мёртвы іх смех напаўняе паветра.

У гэтай краіне не ўбачыш сяброў –
Іх вочы закрытыя маскамі здзеку,
З іх вуснаў зрываецца лёгкі папрок,
І страшным праклёнам вяртаецца рэха.

У гэтай краіне пануе зіма.
Бяздушнасцю свеціцца твар яе сіні.
Ды веру: развеецца дзікі туман
І будзе ўсё хораша ў гэтай краіне.

# Абаронца ветракоў

Бараню ветракоў крылы і сцены
Ад заезджых Кіхотаў, якія даўно
Не доны – бяздомныя флібусцьеры,
Чый штандар – аголенае сцягно.

Бараню, бо хто яшчэ абароніць
Ад бязродных апрычнікаў заўтрашні хлеб?
Адступаць не можна – за мной Гародня.
Адступлю – і млын заменяць у хлеў.

* * *

На струнах шыферных стрэхаў
Зайграе нам лістапад.
І слухаць мы будзем рэха
Вясковых вясновых хат.

Таму не пачуем спевы
Халодных прышлых часін
Пра тое, што права – злева,
А цэнтра няма зусім.

Таму не пачуем гімну,
Якім паспаліты люд
Чужую славіць айчыну,
Сваю затаптаўшы ў бруд.

На шэрых шыферных плахах
Спачнём, каб пачаць з нуля,
Каб дух акрыяў і дахам
Стаў тым, што прыйдуць пасля…

# СУМНАЯ
# ВАКХАНАЛІЯ

* * *

Вершы памерлі.
Словы засохлі.
Ружанец свабоды не адмаўляю.
Я проста жыву.
Пасля проста здохну.
А трэцяй дарогі
Ніхто з нас не мае.

# Баль

Сатана правіць баль
Шмаль
Прабівае на дзікі смех
Грэх
У вачах пустата і сон
Скон
Студзіць вусны гаркавы смак
Вакх
Памірае між кветак і
Тугі
Не хапае на ўсіх святла
План
Ціха тлее а вінны бог
Здох
Мой апошні пусты намер
Звер
Правіць баль Сатана
Хана

# Сябра

Запалі, мой сябар, як калісьці.
Хай на дол спадзе сухое лісце.
Хай у мёртвы твар цалуе вецер.
Ты адзін у гэтым нудным свеце.
Запалі, мой сябар, цыгарэту.
Ты ўсё роўна не патрэбны свету.

# Самота

Самота. Мутны плёс душы –
Не бачна дна.
– Самота, любая, скажы,
Ці ты адна
Мяне чакала праз гады?
– Чакала? Не!
Са мною быў заўсёды ты
На самым дне.

* * *

Калі будзільнік смерці сярод ночы
Цябе разбудзіць ціхім сваім звонам,
Твая душа да Нёману пакрочыць
І ты не будзеш болей ужо сонным.

Ты будзеш мёртвым, чорным і бяздушным,
Душа твая ж утопіцца нарэшце,
І будзе вецер цела яе гушкаць,
І будзе Нёман цела яе песціць.

# У трыццаць трэці дзень нараджэння

У 33 так хораша было б
Зысці з усіх заяўленых дыстанцый,
Зыходзячы, ні з кім не развітацца,
Рассыціць у сабе людскі натоўп.

Мне – 33. Канешне, не стары.
Але і маладосць даўно сатлела
У позірках сяброў маіх ссівелых,
Як свечка на царкоўным алтары.

У 33 так хораша было б
Атрэсці пыл ілюзій і абстракцый
З халодных рук – па венах прагуляцца
Лязом нажа… Ці, можа, кулю ў лоб?

Мне – 33. Ні кулі, ні нажа,
Ні вучняў, ні надзеі, ні Галгофы,
І ні крыжа няма, ні катастрофы…
Ну што ж, далей жыві, гуляй, душа!

* * *

Ні кахання, ні славы, ні веры.
Ўсё аддаў за зламаны грош.
І душу, бы старыя шпалеры,
Змыў самоты калючы дождж.

У жахлівых вачах пустэчы
Я чытаю апошні прысуд:
«Не хацеў шанаваць красу.
Пакараць, адабраўшы вершы».

# Кастрычнік

Вершы зніклі, як першая шэрань
На галінах кастрычніцкіх клёнаў,
Агаліўшы мізэрныя справы,
Ашчацініўшы словаў сукі.
Проста зніклі. Ні вершаў, ні веры.
Ціха плачу, і злыя праклёны
Пасылаю налева, направа,
І цалую пустыя радкі…

* * *

Уцякаю.
Куды – не знаю.
Бягу
Напрасткі
Па жывых парастках
Мараў і мрояў.
Уцякаю да сябе.
Хто я?
Уцякаю.
Крычу.
Падобны да трупа
З рупарам.
Бягу
Праз натоўп,
Але там ніхто
Не чуе мяне.
Ні паненкі,
Ні дзеці,
Ні цені,
Ніхто.
Хоць ад енку
Дранцвею,
Сінею,
Падаю
На калені.
Ніхто не чуе
Мой голас.
Мёртвыя словы
Мае.

* * *

Звар'яцею  
Ад варыяцый шэрасці  
І новай эры.  
Звар'яцею  
І буду мець рацыю.  
Забудуся…  
Не! Буду  
Як Буда –  
Вечна маладым  
Дымам  
Радзімы.  
Адзіным.

* * *

Мне ўнутраны голас сказаў:
«Вазьмі і застрэлься да ліха.
Калі надыходзіць адліга –
Не вартая жалю сляза!

Вазьмі сваю роспач і боль,
Кахання наіўнага комплекс,
І выплюні ў белую столь
Усё да апошняе кроплі!

І збудзецца мараў буклет,
І вернецца з выраю лета…»
Застрэліўся пэўна б, але
Не маю, на жаль, пісталета.

* * *

О, раны, якія халодныя ранкі!
Навокал няма аніводнай душы,
І толькі ў смуродных пад'ездах бамжы
Чакаюць, пакуль не адчыняцца крамы.

Мой позірк блукае па прывідным шкле
Туману і белага-белага неба.
Халодныя ранкі, маўклівыя дрэвы
І сумныя вершы на пыльным стале.

* * *

Сунецца сонца соннае
Па сіняй нябеснай сурвэтцы,
З шэрых аблокаў-іконаў
Глядзяць не анёлы, а чэрці.

Раніца. Дзікая, страшная,
Бо дрэвы бы мёртвыя птахі
Маўчаць. На стале маім пляшка,
Ды выпіць няма з кім, бляха.

# Тост

Пустэча мая пустая,
Назад забяры мяне!
Мая слепата сляпая,
Перавярніся ў труне!
Дурнота мая дурная,
Налі мне яшчэ віна!
Паэзія, дарагая,
Я п'ю за цябе да дна!

* * *

*Прокатилась дурная слава…*
*С. Ясенін*

Пракацілася слава не лепшая
Шэрым колам па мроям і снам.
Мае хібы зрабіліся вершамі,
І мой твар ужо нельга пазнаць.

І няма прынцыповай больш розніцы,
Ці паэт я, ці леташні снег.
Горка плачуць і медвыцвярозніца,
І жалезныя краты па мне.

* * *

Сяджу і п’ю віно,
Бо на душы – крыжы.
На галаве – вянок.
Ён сплецены з ілжы.

Сяджу і п’ю адзін,
Бо не прыйшлі сябры.
У вочы мне глядзіць
Самоты страшны крык.

Але не страшна мне
Не знаць сабе цаны,
Таму хачу ў віне
Схавацца ад віны.

* * *

Сумленне аглушыўшы аплявухай,
Давай нап'ёмся таннага віна
І будзем рэзаць брытваю «Нява»
Адзін другому беленькія рукі.

Пасля паскачам дружна праз акно
Услед бычкам з апошняга паверха,
А каб не турбаваць дарэмна рэха,
Нутро напоўнім дымам і віном.

# Піва

Няма ні свабоды, ні марнай надзеі
На тое, што буду шчаслівым.
Ёсць толькі маўчання бялёсыя веі,
Ёсць толькі дарога за півам.

Каханне знікае, сябры адыходзяць
У вечар пусты і дажджлівы,
А мне застаецца цягнуцца ў знямозе
Па шэрай дарозе за півам.

Не, я не самотны. У светлым пакоі,
Дзе час праплывае імкліва,
Я вечнасць спаткаю з вясёлым настроем
За шклянкай халоднага піва.

* * *

Абрынецца ўсё і без нас.
У тартары знікнуць сусветы.
А покуль траянскі Пегас
Няхай нас імчыць з парапету
Уніз – дзе чакае экстаз
І зайздрасць цнатлівых паэтаў,
Сумлення іржавы каркас
І сіні дымок цыгарэты…

* * *

Як мог я быць вясёлым і смяяцца,
Калі душа кацілася да долу,
Калі пад смех назойлівых авацый
У сэрцы нараджалася крамола?

Так і жыву – вясёлы і нахабны.
Так і памру – самотны і нікчэмны.
О, муза, ты прабілася не ў дамкі,
А толькі стала рэхам каралеўны!

# Тост пра неданулі

Налі, мілы сябра, налі!
Мы вып’ем за жоўтую восень!
Хай зробяцца лічбаю «8»
Бясконцасці неданулі!

Уцёкшы з карціны Далі,
Гадзіннікі спяць на падлозе.
Не зробяцца лічбаю «8»
Бясконцасці неданулі.

Налі, мілы сябра, налі…

# Калегам

Сумныя вершыкі вокнаў
Восень дажджамі закрэсліла.
Пішуць паэцікі хоку –
Пэўна, жывецца ім весела.
Вожыкі ў вершах і коцікі
Плаваюць паралельна
Вокнам, закрэсленым восенню,
І ўсё не топяцца, шэльмы.

# Спадкаемцу

Спалі ўсе вершы і лягай на дно
Халодных словаў і гарачых вуснаў,
Жыві, нібыта ты памёр даўно
На алтары ўтаймованай спакусы.

Забудзь усіх каханак і сяброў:
Яны – віно, дапітае да кроплі.
І жарсці змрок, і светлая любоў
Каштуюць, як падраныя пантофлі.

Дык не марудзь, хутчэй аддай радкі –
Пачуццяў вязь на целе думак-вязняў
Агню, які з'яднае на вякі
Мяне з табой, як з дзейнікам выказнік.

* * *

Восьмы том
Неагучаных правіл і ісцін –
Вось мой дом,
Без вакон, уваходу і выйсця.
За аблок
Закацілася сонца карэта –
Задзяўбло
Асвятляць шлях сляпога паэта.

# Слядамі Энея

Сцяжынай з'імшэлай
Не чуючы ног,
Спускаюся ў пекла –
На самае дно.
Мой позірк здзічэлы
Шукае на дне
Прастораў пякельных
Спамін аб вясне.

* * *

Мой свет разарвалі на тысячу сказаў.
На тысячу словаў разбілі маўчанне.
Мой Божа, навошта Ты дорыш адразу
Так многа адценняў і ценяў адчаю?

Мой свет расцягнулі на сотню прыгожых,
Вясёлых і добрых сяброўскіх усмешак.
А што ж узамен? Абыякавасць, пошласць
І маскі з пустымі вачніцамі вершаў.

Мой свет разваліўся на тры элементы:
Каханне, надзею і веру ў Самоту,
А я пад гарачыя апладысменты
Знікаю пад слоем жыццёвага лёду.

* * *

Не шанцуе ні ў смерці, ні
У звычайным, пустым каханні.
Мае дні – нібы хуткі цягнік.
(Ці стоп-кран у вагоне спальным?)

Не шанцуе мне ў смерці, не.
Не шанцуе ў пустым каханні.
Клічнік спіць у маёй труне,
А здаецца, што спіць пытальнік.

* * *

Мне здавалася – свет мяняецца:
Хай да горшага ці да лепшага,
Але ж поўніцца рэха памяці
Спевам фарбаў, звонкімі вершамі,
І малітвамі, і праклёнамі,
Жураўлiным крыкам над гонямі...
Свет мяняецца, мне здавалася.
Памыляўся я, памыляўся я...

* * *

Абсыпаецца пазалота,
Агаляючы танны змест
Дзён, пражытых ад часу ўпотай
На памежжы двух каралеўств.

Расплываюцца далягляды.
У вачах застывае сон.
На памежжы веры і здрады
Засцілае сляды пясок.

І не вернешся, хоць захочаш,
Па-за межы вечнай тугі –
Абрывае вецер паўночны
Белых вершаў крылы-сцягі.

# Палёт херувімаў

Мне ніколі не быць ні шчаслівым, ні вольным, як вецер.
Мне ніколі не ўбачыць спакою ў вачах цішыні.
Застаецца адно: дачакацца няўрымслівай смерці
І адплыць назаўжды па слаце незавершаных кніг.

Не чытай гэты верш, мой таемны, няспраўджаны сыне.
А калі прачытаеш, не смейся над бацькам сваім,
Што сатканы радкі мае з думак пустых і наіўных,
Што не пішуць так вершаў... Іх, сыне, не пішуць зусім.

Бо даўно адышлі пад заслону рабінавай ночы
За парог небасхілу паэты і іх чытачы,
Каб зіхцець цішынёй над пустэльнямі душаў сірочых
І самотны палёт херувімаў у вырай сачыць....

* * *

Пішу пяром з крыла Амура,
А навакол мяне зіма,
І словы з-пад майго пяра
Змятае снежная віхура.

# Дэкадэнты

Пад ціхія апладысменты
Прыгожых дзявочых вачэй
Нараджаюцца дэкадэнты
І сцякаюць слязой па шчацэ.

Нехта з іх высыхае светлым,
Нехта чорны пакіне пас,
Нехта будзе проста паэтам,
Нехта будзе простым, як сказ.

* * *

Ты прабач, мая фея,
Што навокал – зіма,
Што мяне ў каземат
Пасадзіла завея.

Як адтуль уцячы?
Больш за ўсё верагодна,
Што зайздросная годнасць
Мне не кіне ключы.

* * *

У вачах незнаёмых жанчын
Я шукаю твой позірк гарэзны.
Нібы бляск месяцовы ўначы,
Ён і хмеліць, і разам цвярэзіць.

Я шукаю на вуснах чужых
Прысмак жарсці тваёй далікатны.
Не знайду. Бо няма больш такіх.
Ты – адна, як пачатак пачаткаў.

# Жанчыне

Ты – як Зямля.
Той, хто бяжыць ад цябе,
Бяжыць, каб зноўку вярнуцца
Туды, адкуль пачынаў уцёкі.
Ты – як Зямля.
Ідыёт, хто спрабуе
Пазбавіцца сілы
Твайго прыцягнення,
Ён кружляе тваім спадарожнікам
Вечным ці метэарытам
Згарае ў тваёй атмасферы.
Ты – як Зямля.
Дзівіш сваёй разнастайнасцю,
Нават у скрайнасцях слепіш
Сваёй прыгажосцю.
Толькі твае супярэчнасці
Маюць аднолькавы колер –
Колер бяскрайняга снегу.
Ты – як Зямля.
Не адпусціш нікога,
Хто ўвайшоў у цябе,
А адпусціўшы, не прымеш
Ніколі назад.
Ты – як Зямля.
Нараджаеш і нішчыш,

Даеш, а пасля забіраеш,
Матывуючы ўсё непазбежнасцю,
Зменай настрою.
Нават настрой твой – і той
Нельга акрэсліць дакладна,
Бо, як Зямля, адначасна
Бываеш летам гарачым,
Зімою, вясною і
Восенню сумнай.
Ты – як Зямля.
Круцішся каля мяне
І следам за мною ляціш
У віры касмічнай бязмежнасці.
Ведаеш, любая, ты не адна.
Ёсць багата нябесных целаў,
Што, нібы матылі на агонь
Злятаюцца да мяне,
Каб разам са мною плыць
У прасторы і часе
За далягляд сусвету.
Але толькі табе адной
Я дару сваю ласку, якая
Завецца ЖЫЦЦЁМ.

# Дождж

Недзе
Там
За
Дажджом
Дом.
У
Тым
Доме
Пустым
Ты.
Як
І
Я,
Лічыш
Дні
І
Зберагаеш
Вясны
Сны.

* * *

Кахаць цябе не маю права.
Не маю права быць з табою.
Мы – нібы Кракаў і Варшава:
Між намі час пустой абоймай.

Хоць нас люляюць тыя ж хвалі,
Зусім інакшыя аблокі
Яны люструюць. Я кахаю,
А ты – далёка, так далёка…

* * *

Ты – мая мара,
Дзень мой, і ноч, і світанне,
Сонца, і месяц, і зоры.
Ты – маё мора:
Вабіш каханнем туманным,
Страшыш маўклівасцю чорнай,
Ты – мая карма.

# Каханне на стале

Кахацца на стале пад позіркам Налкоўскай
І іншых класікаў літаратуры польскай…
Кахацца на стале, калі даўно за поўнач,
Каб месячным святлом усю цябе напоўніць…
Кахацца на стале сярод забытых вершаў
Да ранка, покуль сонца промнем першым
Не ажыве ў табе салодкім сном…
А потым зноў кахацца, зноў і зноў…
А потым на таксі праз стогн пустых праспектаў
Ляцець насустрач дню, разгубленаму лету,
Ляцець, каб у святле канонаў, догмаў, рацый
Кахацца на стале між пыльных дэкарацый…

# Каралеўскі паяц

Плач, мая любая, плач.
Гэтая ноч не для нас.
Рэха апошніх удач
Скраў каралеўскі паяц.

Так, ён даўно чатаваў,
Ліў мне атруту ў віно,
Каб сярод водару траў
Песціць святло тваіх ног.

Чуеш, як крача крумкач?
Цемра накрыла палац…
Плач, мая любая, плач –
Хай пасмяецца паяц.

* * *

Усё прапала, знікла, як у небе
Знікаюць прывіды ліловых гарадоў.
Бывай, мая прыгожая паненка!
Твой рыцар на вайну апошнюю пайшоў.

На той вайне няма ніякіх правіл
Апроч аднога: забіваць чужое «я»
І быць сабой сярод сяброў крывавых,
Аж покуль зайздрасці не выпаўзе змяя.

Усё прапала, знікла, нібы рэха,
Што тоне між крыжоў з’імшэлых на кладах.
Бывай, мая паненка! Я паехаў
У змрок сівых шляхоў, у сплін і дэкаданс.

* * *

Ты – нібы яблык,
А я… Я – зямля.
Чакаю, азяблы,
Што вось-вось з галля
Спадзеш у абдымкі мае.
Я ведаю, многія хочуць
Бачыць цябе на стале,
Я ж – толькі зямля,
Але... ёсць добрае слова «але» …

* * *

Мы с табою ніхто – ні сябры, ні каханкі.
Ты – гарэзлівы вецер, я – стомлены дождж.
І таму лабірынтамі прывідных замкаў
Мы шукаем адзін аднаго, але ноч
Не дае нам адказаў на нашы пытанні,
І яны зноў над намі вісяць, як нажы.
Лабірынтамі прывідных замкаў блукаем
І не хочам ні плакаць, ні верыць, ні жыць.

* * *

Ты напоўніла мой неспакой
Непагаснай мелодыяй флейты,
І, сляпы, я пайшоў за табой
У краіну праклятых паэтаў.

І каханне, і роспач, і злосць,
І надзею, і розум, і сорам
Мы ўзялі і прабілі наскрозь
Металёвымі стрыжнямі зораў.

І нябёсы зваліліся ў дол,
Каб памерці, змяшаўшыся з пылам,
І ўваскрэснуць між нашых слядоў,
Між імхоў на бацькоўскіх магілах.

Хай заплача нарэшце Пан Бог
Над пустэчай пакінутых храмаў,
над крыжамі сцяжын і дарог,
Што вядуць ад зачыненай брамы.

* * *

Хто мы? Сімвалы гэтай самотнай, няскончанай восені?
А і Б, што сядзяць на трубе і гатовыя знікнуць, як дым?
А быць можа, я той перакулены човен ля возера,
Што чакае цябе – аксамітную хвалю вады?

А калі не чакае, дык проста ляжыць і любуецца
На адбіткі аблокаў, што спяць у тваёй глыбіні,
На прыгожыя мары, якія ніколі не збудуцца
І наўрад ці забудуцца, зблытаўшы ночы і дні.

Я хацеў бы паплыць па табе, абдымаючы словамі-вёсламі,
Я хацеў бы адчуць пад сабою тваё залацістае дно,
Але мы – толькі сімвалы гэтай няскончанай восені,
А і Б, што сядзяць на трубе, папіваючы з вішні віно…

* * *

Ты скрала мяне,
Зблытала карты, законы, каноны.
Ціха, бы ў сне,
Памерла жаданне быць вольным.
На выцвілым дне
Сталіся новыя содні.
Ты скрала мяне –
Зрабіла мой голас бясплодным…

* * *

На вуснах тваіх водар здрады.
На вуснах маіх – весялосць.
І ведаеш, я нават рады,
Што ты для мяне толькі госць.

Ты – госць маіх чорных сакрэтаў
І танных, штодзённых прыгод,
Каханка прадажных паэтаў,
Русалка юрлівых балот.

Кахаю цябе? Не кахаю?
Хто ведае? Толькі туман,
Які нашы вусны хавае,
І слёзы, і словаў падман.

Не бачныя больш далягляды.
Пяшчоту змяніўшы на злосць,
Смяецца ў вачах маіх здрада
І плача ў тваіх весялосць.

* * *

Берагам сноў каляровых
Крочым з табою праз лета.
Фарбамі страчаных мрояў
Нашыя думкі сагрэты.

Следам у край асалоды
Сунуцца змрочныя цені.
Мы аддалі ім свабоду –
Самі таго не хацелі.

Бачыш – няма больш нічога,
Што б затрымала ў дарозе.
Не азірайся на Бога –
Бог нас назад не запросіць.

* * *

Ты сказала: «Дабранач, Толік!
Хай зямля табе будзе пухам,
Хай табе твая вольная воля
Выйдзе бокам, стане навукай,
Хай прысніцца табе каханне
З пляшкай піва ў начной кавярні.
Спі, мой Толічак, спі маленькі,
Крумкачы тваe выдзяўбуць зрэнкі,
І ты будзеш глядзець на неба
Не вачыма, а водбліскам срэбра».

* * *

Тая, якую кахаю,
Мае прыгожыя вочы,
Мае салодкія вусны,
Мае бурштынавы голас.
Я ж анічога не маю.
Позірк мой – цень сярод ночы,
Словы – як танныя глупствы
На манекенах вясёлых.

* * *

Усё змяшалася – зіма, вясна і восень
У гэтым студзені, нібы ў жахлівым сне.
Ты ўся дрыжыш. Каханая, не бойся.
Давай патопім страх свой у віне.

Віно падкажа неабходныя кірункі,
Рассыціць сум, трывогу і віну
За руны ран і цалі пацалункаў,
За тое, што не помнім пра турму.

# Калыханка для прынцэсы

Дабранач, мая прынцэса,
Паэтка нязбытных сноў!
Твой рыцар словам жалезным
Драўляных нішчыць багоў.

І покуль увесь у войнах
Яго заблытаны зрок,
Ты можаш зусім спакойна
Змяніць святло на паўзмрок.

І ў гэтым ціхім паўзмроку
Аддаць другому сябе,
А потым лічыць аблокі,
Дзе больш ніхто не жыве.

* * *

На крылах сляпой свабоды
Лячу невядома куды.
На дно пустой асалоды?
На бераг мёртвай вады?
Мая салодкая фея,
Завея феерый-сноў
Ізноў, як звер, вар'яцее!
Тапёр нямога кіно,
Я ведаю пра вар'яцтва,
Павер, не менш за яе,
Але спрабую застацца
Цвярозым прынамсі ў сне.
Я ведаю пра каханне
Не горш за іншых людзей
І ў змрок на белым экране
Стараюся не глядзець…
Таму на крылах свабоды
Імкну туды, дзе з табой
Падзелім і рух, і подых,
І сэрца рытмічны бой.

* * *

І вось я – пусты, а ты
Збянтэжаная такая,
Шукаеш словаў сляды,
Што з вуснаў маіх зляталі.
Ды толькі няма, павер,
Слядоў у сляпой пустэчы.
Я – першы, ты – трэці паверх.
Між намі – цэлая вечнасць.

# Ты і я

Плача восень у тваіх вачах.
У маіх – вясна, як сталь нажа.
Хто убачыць наш з табой адчай?
Хто адкажа, дзе той небакрай,
За якім суцешыцца душа?

Раптам чуем гучны крык з крыжа:
«Я ёсць шлях да шчасця праз тугу,
Тайная дарога праз тайгу,
Праз ільдоў адвечных млечны жах».

Чуем, ды не бачым, хто з крыжа
Нам крычыць, бо позірк твой слязой
Раз’ядае восені іржа,
Мой – спакоем бэзу цвет замёў,
Нібы снегам – сховішча вужак.

* * *

У смяротна параненым краі
Нам не знойдзецца месца ніколі.
Нас чакае вяртанне да раю,
Але ў рай не вяртаюцца з болем.

Раскрываюцца раны нанова,
І таму я шукаю ратунку
У наіўных, расхрыстаных словах –
Траекторыях пацалункаў.

* * *

Вып’ем, муза кафэшантанная, –
Гэты ранак наўрад ці збяжыць.
Змрочных мрояў сувоі танныя
Мы пакінем на хісткай мяжы:

Паміж смерцю і крыкам народзінаў,
Паміж болем і радасцю слёз.
Вып’ем брэндзі кілішак, ды й годзе нам…
Годзе свет успрымаць усур’ёз!

* * *

Цалую цябе – напалову святую,
А значыць, і мёртвую напалову.
Не вусны, а словы твае цалую,
Бо веру, што целам станецца слова.

Бо веру, здараецца ў свеце каханне.
Прынамсі, я бачыў яго сягоння –
Яно валялася побач з бамжамі
На бруку бліскучым нашай Гародні.

* * *

У тваіх вачах зіяе дно:
Слёзы вершаў высахлі даўно.

Ты слязьмі хацела патушыць
Жар сутоння стомленай душы.

Апякла і шчокі, і далонь,
А спыніць не здолела агонь.

Зрэшты, пагарэлі толькі дні.
Ночы – не, іх сон абараніў.

* * *

Быць з табой мне сам лёс дазволіў.
Без цябе – не дазволіў страх.
Гэта праўда: мроя і воля
Выбіраюць адзіны шлях

Ды расходзяцца, як каметы,
Каб згарэць паводдаль сябе,
Каб пакінуць вершы паэту,
Непаэту – верную смерць.

* * *

Вiном пяшчотных, белых słоваў

Частуе нас шынкарка-смерць.

Твой келіх поўны напалову.

А мой пусты амаль на трэць.

Падсумаваўшы ўсе рахункі,

Мы вершы п’ём на брудэршафт.

Слядамі нашых пацалункаў

За намі прыйдуць боль і жах.

* * *

Маё імя закрэсліла Самота,
І, безыменны, я пайшоў шукаць
Сляды жанчын – смуглявых дочак Лота,
Бо чуў іх ціхі голас у вяках

Альбо ў радках сваіх уласных вершаў,
Якія нёс праз церні і дажджы
Шырокім брукам, вузкай, пыльнай сцежкай
У рэшаце зняволенай душы.

Знайду ці не юрлівых патрыётак –
Не важна мне, бо важны толькі шлях,
Які ўнутры акрэсліла Самота
Паверх імя. У Смерці на вачах.

# Размова з ракой

Аднойчы мяне інстынкты паклікалі
На бераг ракі, і я прагукаў:
«Лавіся, рыбка малая, вялікая!»
І чую – адказ прашаптала рака:
«Сябра, надзею марную выкіні
На тое, што зможаш убачыць улоў.
Малую рыбку і рыбу вялікую
Не звабіць прынадай з адных толькі слоў».

# Жанчыне

Прабач, што не ўмею дбаць
Пра тых, каго так люблю,
Што множу пустку на два,
А потым з табой дзялю.

Прабач, што стаўся чужым,
Паблытаў дабро і зло,
Застаўся жыць на мяжы –
Між позіркам і слязой.

# Іншай жанчыне

Ты змянілася. Гэтак бывае заўжды.
Ты далёка, мой змрочны анёл.
Паміж намі ляглі не гады, не сляды,
А вільготны пясок ля палоскі вады
І нябёсаў высокая столь.
Не шкадую, што мы не прайшлі гэты шлях,
Не турбуюся, з кім ты цяпер.
Не турбуйся і ты, адыдзі на вачах
І памры, як няскончаны верш.

# Вернай жанчыне

Як файна, што недзе чакае
Жанчына, якая кахае.
Праз межы, дні, кіламетры
Яе каханнем сагрэты,
Яе чаканнем спавіты,
Жыву ад змроку да світу.

* * *

Тонкія німбы бакалаў
Поўняцца белым віном.
Гэтага нібы і мала –
Проста сядзець за сталом,

Проста глядзець у бяздонне
Вінных нявінных вачэй,
Дзе, перапоўнены стомай,
Тоне спакою каўчэг,

Бачыць, як хвалі трывогі
Б'юцца на шалях тугі,
Як сярод дзён каляровых
Белыя ўюцца сцягі.

Проста напіцца да шалу
Жарсцю хвілёвых удач…
Гэтага, можа, і мала.
Болей не маю. Прабач.

Думаў, буду як вецер –
Заўсёды юным, вясёлым
Светлавалосым дэндзі
З вачыма колеру колы.

Думаў, буду як неба –
Заўсёды мудрым і шчырым:
Пясок змыю залевай,
Раллю снягамі накрыю.

Думаў, буду як рэха –
Заўсёды ўсім адгукацца:
На смех – гэткім жа смехам,
На трэнас – вусцішным плачам.

Праўда, пакуль я думаў,
Сусвету шалі шалелі –
Людцаў гушкалі тлумы,
Не горш за тыя арэлі.

Гушкалі аж пад зоры
На радасць рэху і ветру,
На страшную злосць хворым
Хваробай зорнай паэтам.

Гушкалі і крычалі:
«Далоў гармоніі путы!
Волю сусветным шалям!
Нябёсы – простаму люду!»

Аб крык гэты шалёны
Ушчэнт разбіліся цені
Тых маўклівых мільёнаў,
Што гушкацца не хацелі.

А ўсё таму, што мільёнам
Глухіх і сляпых паяцаў
Раптам стрэльнула ў голаў
Людзьмі сур'ёзнымі звацца.

Стрэльнула: рыкашэтам
Прабіла ў нябёсах дзірку
На злосць рэху і ветру,
На радасць анёлам дзікім.

Сталі ўцякаць анёлы
З аблокаў праз дзірку тую,
Бо ўсім хочацца волі,
А пер'е не ўсім пасуе.

Кожны з іх быў цікавы
Да тых ці іншых пытанняў:
Што лепш – піва ці кава?
Што горш – смерць ці каханне?



Ці ёсць нейкі фарватар
Паміж бяздзействам і чынам?
Бяспечней пасацаць матам
Мужчыну альбо жанчыну?

Так на бакі чатыры
У пошуках праўды-маткі
Збеглі, кінуўшы крылы,
Толькі блішчэлі іх пяткі.

Многія дык адразу
Бягом да тутэйшых німфаў –
Маўляў, там і адказы
Аднойдзем, і дах над німбам.

Але ж бабы-заразы
Бабах кропку над ётам:
Найперш крочым да загсу,
А дах і адказы – потым!

Адзін – самы наіўны –
У загс пагадзіўся згойсаць.
Іншыя – ў рукі німбы,
І ў ногі, пакуль не позна.

Зрэшты, была нядоўгай
Радасць уцёкаў: пра гіцляў
Хутка данеслі Богу
Айцы царквы каталіцкай.

Уцекачоў вярнулі,
Нябёсы замуравалі.
А заадно і гулі
Згарнулі здурнелых шаляў.

Зрэшты, адзін застаўся
Анёл на грэшнай зямельцы –
Той, што згойсаў да загсу
Дзеля спакою на сэрцы.

Мо пра яго забылі,
А можа быў непатрэбны:
Меў кароткія крылы
І голас для спеваў дрэнны.

Так ці інакш, спісалі
На радасць рэху і ветру,
На злосць спыненых шаляў
І зайздрасць стольных паэтаў.

Праўда, часта бывае,
Тое, што небу нягожа,
На грэшнай зямлі буяе,
Цвіце і пахне бязбожна.

Там – нуль, тут значыць талент.
Анёл скарыстаўся гэтым
І стаў загадчыкам шаляў,
Пасля – дырэктарам свету.

Стаў рыхтаваць праекты
Сусветна значных загадаў:
«Аб забароне рэха
Пад час збіральніцтва ягад»,

«Аб уплаце падатку
На ўсе паходы да ветру»,
«Аб бясплатных асадках
Для беспартыйных паэтаў».

Вынікам тых праектаў
Сусветна значных загадаў
Сталі апладысменты
Паяцаў і шаляў маты.

Маты былы крылаты
Назваў здрадніцкай змовай.
Плясь праект: вінаватых –
У здачу металалому.

Зрэшты, хоцькі-няхоцькі,
Ды толькі з кожным праектам
Могуць быць правалочкі
І форсмажорныя беды.

А пакуль лютавалі
Розныя там форсмажоры,
Зніклі сусвету шалі
У закардонных афшорах.

Ясна, анёл за тое
Паяцам даў наганяю –
На столь да жырандолі
Падвесіў найменш лаяльных.

Тых, што віну прызналі,
Паслаў разводзіць балясы,
Самых хітрых пасламі
Адправіў да папуасаў.

Іншыя ўсе паяцы,
Што збоку былі прыпёку,
Вельмі ж сталі баяцца
Прышэльца з цёмных аблокаў.

Бо цяжка было ўцяміць,
Што выкіне зноў прышэлец:
Скажаш лухту – пахваліць,
За нешта слушнае – шэльміць.

Страшна было, ды неяк
Махнулі рукой штосілы
На страх. Бачаць – о, неба! –
Не рукі цяпер, а крылы!

«Зараз мы тут анёлы! –
Крычаць былыя паяцы.
Той, хто зямлю ачоліў,
Не можа анёлам звацца!»



«Прэч, пісака праектаў!»
«Зыходзь, загадчык загадаў!»
«Вярні шалі сусвету!»
«Далоў бяскрылых мутантаў!»

Гэтак яны крычалі,
Кружляючы па-над пляцам –
Там, дзе стаялі шалі,
Пакуль не сталі ламацца.

Крык быў, канешне, смелы,
Вынік, праўда, банальны:
Крылы хутка здранцвелі,
І ўсіх, як курэй, злапалі.

А можа не ўсіх. Нехта
З былых так званых паяцаў
На злосць рэху і ветру
Не стаў кружляць па-над пляцам,

Як толькі здабыў пер'е,
Адразу сцяміў: не варта
Пускаць сілы на вецер,
Калі ты і так крылаты.

І знік. Дзе – невядома,
У нейкіх далёкіх далях.
Можа быць, за кардонам,
Там, дзе сусветныя шалі.

Можа быць, на нябёсы
Яго забралі анёлы
У хор свой шматгалосны,
Бо меў ён голас не кволы.

А можа, было нават
І болей тых неафітаў,
Якім енк не цікавы
Над пляцам з бетонных плітаў.

Я, калі захацеў бы,
Таксама знік за пагоркам –
Тыя, што адляцелі,
Мне скінулі ўсе па пёрку.

Сабе майстраваць крылы
Я думаў, ды перадумаў –
Хацелася быць сціплым,
Не ўзносіцца па-над тлумам.

Хацелася быць ветрам,
Што дзьме не ў плечы, а ў вочы.
Хацелася быць небам,
Спавітым ззяннем паўночным.

Хацелася быць рэхам
Тугі пералётных птушак…
Хацелася спаць. З пер’я
Зрабіў не крылы – падушку.

Зрабіў і заснуў, быццам
Прадаў вагоны пшаніцы.
Мне толькі спакой сніцца,
І вы мяне не будзіце…

# Змест



## ВЕРНЫЯ ВЕРШЫ

## Пад сцягам Мадагаскара

## Сумная вакханалія

## ТЫ – ЯК ЗЯМЛЯ

